Год VII. Верасень № 10 (83).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 10:



**УВАГА!** **Хто йшчэ хоча прыслаць сваё апаведаньне на літаратурны конкурс „Шляху Моладзі" няхай з гэтым пасьпяшыцца. Апошні тэрмін прысыланьня 30-га верасьня сёлета. За найлепшыя апавяданьні будуць прызнаны нагароды кніжкамі: I—на 50 зл., II—на 30 зл., і III—на 20 зл**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода—1 зл., на год—2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Верасень 1935 г. | № 10 (83). |
|---|---|---|


* * *

Вечар васеньні імгліцай
Тчэ туманы над вадой,
Лісьце, пажоўклае лісьце
Ліпне у гразь мітульгой.
Змрок разаслаўся ля хаты,
Выцягнуў крылы у даль
Сум маю думку сасватаў —
Лета мінулага жаль.
Цешылісь краскамі нівы,
Пышна шумелі жыты.
Сёньня у полі тужліва;
Голыя межы, кусты.

**М. Машара.**

## Da pieramohi!

Z całaj siły da mahiły
Budziem ščyra pracavać
I ajčynu, nam adzinu,
Biełaruś budziem kachać.
Z našaj metaj, my kametaj
Ŭ vysi budziem šybavać,
Duch ahniami-piarunami
Stanie bury ŭsie łamać.
Novym šlacham i z razmacham
Pieraškody ŭsie prajdziom...
Nie spačyniem, chiba zhiniem
Pokul praŭdy nie znajdziom.
Hułkaj pieśniaj na pradvieśni
My napoŭnim rodny kraj;
Da navuki, knižku ŭ ruki.
Duch uhoru uźlataj.
Horda staniem, śmieła hlaniem
Złomu vorahu u tvar,
Što ad vieku čałavieku
Nios zahładu i pažar.
A praz honi huł Pahoni
Praniasiecca z kraju ŭ kraj.
Sonca hlanie na zarańnie,
Pieśniu hrymnie aratаj.

*Lavon Buratom.*

Ад. Станкевіч. 

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## Х. Нарадзіны ідэі сувэрэннай Беларусі.

### § 3. Менскае Беларускае Прадстаўніцтва і ідэя незалежнай Беларусі.

Зараз пасьля прыходу немцаў, у Менску ўтварылася Беларускае Народнае Прадстаўніцтва. Складалася яно з элемэнтаў, якія ня былі ўвайшоўшы ў Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага Кангрэсу і потым у Раду Бел. Народнай Рэспублікі.

Каб адказаць на пытаньне, чаму гэтыя элемэнты, якія стварылі Прадстаўніцтва, не ўвайшлі ў Раду Рэспублікі, трэба нам глянуць назад, на падзеі з ліпня месяца 1917 г. У гэтым месяцы на зьезьдзе беларускіх арганізацыяў і партыяў дайшла да перавагі ў беларускім палітычным жыцьці адна партыя — Беларуская Сацыялістычная Грамада. На гэтым зьезьдзе (8—9 ліпня) яна сарвала адны выбары, якія выпалі не па яе думцы, а зажадала новых. Ня хочучы зрываць адзінага беларускага нацыянальнага фронту, усе іншыя партыі, якія былі на зьезьдзе, а галоўна народныя сацыялісты і хадэкі, пайшлі на ўступкі і далі магчымасьць Б. Сац. Грамадзе ўзяць павадырства ў сваe рукі. Ад гэтага часу пачынаецца верхаводзтва Б. Сац. Грамады ў беларускім палітычным жыцьці.

Гэтая ўступка з боку народнікаў і аддача павадырства ў рукі аднэй партыі, была выклікана палітычнымі абставінамі тагочаснага беларускага жыцьця. Трэба было тагды браць пад увагу ня толькі еднасьць беларускага нацыянальнага фронту, але і псыхіку расейскай рэвалюцыі. А гэта псыхіка вымагала штораз большай левасьці і тая партыя магла спадзявацца аўторытэту і послуху ў масаў, якая магла даказаць, што яна левая, ды яшчэ лявейшая за ўсе іншыя. А такою найболей леваю партыяй у беларускім палітычным жыцьці была тагды якраз Б. Сац. Грамада. Апроч гэтага ў псыхіцы мас стварылася тады такое пракананьне, што толькі сацыялізм можа даць шчасьце народным масам і дзеля гэтага ў той час кожная партыя, нават такая, якая ня мела ў сваей ідэолёгіі нічога социялістычнага, выступала пад фірмай сацыялізму. І так — творацца тагды (апроч сацыялістаў рэвалюцыянэраў) яшчэ іншыя „сацыялістычныя“ партыі: народных сацыялістаў[1]), сацыялістаў-фэдэралістаў, сацыялістаў-аўтанамістаў, незалежных сацыялістаў і іншыя.

*) Аддзел партыі беларускіх народных сацыялістых у м. Сьмілавічах між іншымі закладаў беларускі паэт А. Зязюля (Кс. А. Астрамовіч).

Так і Б. Сац. Грамада ня была чыста сацыялістычнай партыяй (з пункту гледжаньня марксызму), апіраючай сваю ідэолёгію на матар'ялізьме і інтэрнацыяналізьме, а была партыяй, як мы бачылі аб ей у асобным разьдзеле, беларускіх патрыётаў, якія, пасвоему разумеючы сацыялізм, імкнуліся да адраджэньня Беларусі пры помачы модных тагды сацыялістычных клічаў.

Вось у рукі такой партыі народнікі здалі павадырства ў бел. палітычным жыцьці ў ліпні 1917 г. і далей працавалі ўжо як памагальнікі. У „нагароду“ за гэтую ўступку Б. Сац. Грамада не дапусьціла да Выканаўчага Камітэту Рады Усебеларускага Кангрэсу а гэтым самым і да Рады Б. Нар. Рэспублікі, якая ўтварылася з Выканаўчага Камітэту Рады, ніводнага народніка, хадэка або народнага сацыяліста.

Такім чынам, Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу, а потым Рада Б.Н.Р. на пачатку свайго існаваньня складаліся выключна з сяброў эднэй беларускай партыі, іменна Б. Сац. Грамады. Гэтае зьявішча было ненармальным, асабліва пасьля прыходу немцаў, якія не хацелі лічыцца з такою вузкапартыйнай Радай.

Дык тыя групы, якія ня былі дапушчаны да Вык. Камітэту Рады Кангрэсу, разам з прадстаўнікамі насельніцтва гораду Менска стварылі Менскае Беларускае Народнае Прадстаўніцтва. Складалася яно з тых элемэнтаў, якія не ўваходзілі ў Б. Сац. Грамаду, а іменна: народнікаў агулам, народных сацыялістаў, хадэкаў і беспартыйных.

Прадстаўніцтва ўзяло на сябе абавязак, як піша яго орган „Бел. Шлях“ (першая беларуская штодзенная газэта), ...„прадстаўляць інтарэсы Беларускага народу і быць нацыянальным цэнтрам, куды за ўсялякімі спраўкамі маюць звaрочвацца ўсе, каму дарагая незалежнасьць Беларусі, культура і самабытнасьць Беларускага народу... „Беларускі Шлях“ ставіць сабе мэтай: незалежнасьць Беларусі, нацыянальную еднасьць і арганізацыю, разьвіцьцё беларускай духовай і матарыяльнай культуры... Шмат што нас можа разлучаць, але ўсіх нас яднае адно: гэта доля нашай Бацькаўшчыны Беларусі, каторая палепшыцца можа толькі праз закладзіны моцнага фундаманту яе незалежнасьці на грунце непадзельнасьці Беларускага народу ў яго этнографічных рубяжох; праз падняцьце нацыянальнай творвай сілы народу, як духовай, так і матар'яльнай, праз увядзеньне станоўчай зямельнай рэформы ў інтарэсах дробных земляробаў і беззямельных, каб згодна з досьледамі социяльнай навукі падняць іх дабрабыт і дапамагчы эканамічнаму разьвіцьцю краю[1])“.

Гэтак выяўляла свае палітычныя думкі Прадстаўніцтва ў сваім органе, які ў вадным і тым-жа нумары аж тры ра-

1) „Бел. Шлях“ № 1, 8.III.1918.

зы сьцьвярджае канешнась незалежнасьці Беларусі і ставіць гэту незалежнасьць як галоўную мэту тае арганізацыі, ад імя якое ён прамаўляе г. зн. Бел. Прадстаўніцтва.

Агулам трэба адзначыць, што Прадстаўніцтва ад самага пачатку сваго існаваньня было за незалежнасьць Беларусі. Трэба тут падчыркнуць, што калі пасярод Бел. Сац. Грамады былі да апошняга часу адзінкі, якія стаялі на грунце аўтаноміі Беларусі ў граніцах Расейскай Фэдэрацыі (рабілі яны гэта затым, што баяліся адкінуць ад сябе расейскую і жыдоўскую меншасьці, якія былі проціў незалежнасьці Беларусі, бо з расейскіх партыяў ніводная не стаяла за незалежнасьць Беларусі, а з жыдоўскіх толькі Поалей-Сыён), то пасярод сяброў Прадстаўніцтва выступленьняў проціў незалежнасьці ня было і Прадстаўніцтва ад самага пачатку свайго існаваньня, гэта знача, за які месяц да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Радай БНР, рашыла парваць з усякімі аўтанамічнымі концэпцыямі ў граніцах вялікай Расейскай Фэдэрацыі і стала здэцыдавана на грунт незалежнасьці Беларусі.1)

Аднак злучэньне ўсіх беларускіх сіл у вадну народную рэпрэзэнтацыю было тады жыцьцёвай канешнасьцяй, што хутка й сталася. 12.IV.18, ужо пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, Прадстаўніцта ўвайшло ў склад Рады Бел. Нар. Рэспублікі.

Нам тут найважней адцеміць урэшце той факт, што думка аб незалежнай сувэрэннай Беларусі, да свайго афіцыяльнага абвешчаньня, у некаторых беларускіх палітычных асоб і арганізацыяў у Менску, чаго яшчэ ня было ў Вільні існавала і ўжо яўна пашыралася.

## § 4. Акт 25.III.1918.

З Рады Зьезду і Выканаўчага К-ту Зьезду, як мы ўжо бачылі, у сакавіку месяцы 1918 г. утварылася Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Была яна як-бы беларускім парлямэнтам, бел. законадаўчай установай. Выканаўчым органам Рады БНР, ці прасьцей кажучы — Беларускім Урадам, і далей аж да 23.VII.18 г. быў Народны Сакрэтарыят, у склад якога ўваходзіла нешта да 15 народных сакрэтароў, ці міністраў.

Вось жа Рада БНР разам з сваімі міністрамі, будучы ў нязвычайна цяжкім палажэньні, з апошніх выбіваючыся сіл, энэргічна праводзіла далей дзяржаўна-незалежніцкую ідэю, стараючыся зрэалізаваць яе.

Тымчасам справа гэта была нялёгкая. Немцы і бальшавікі дзялілі Беларусь. У Берасьці 9.II.18 быў падпісаны дагавор

---

1) Кс. В. Гадлеўскі — З беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917—18 г. („Бел. Крыніца“ № 18, 1934).

між немцамі і украінцамі, на моцы якога некаторыя беларускія паветы пераходзілі да Украіны.

Немцы прызнавалі незалежнасьць Літвы, у склад якой так-жа мелі ўвайсьці некаторыя беларускія землі. Прыступалі так-жа немцы да стварэньня „незалежнай" Курляндыі, да якой далучыліся-б беларускія землі Віцебшчыны. Але гэта ўсё дробныя кавалкі беларускай зямлі, якой гандлявалі немцы. Бальшавікі-ж для немцаў тым-жа беларускім коштам былі шмат шчадрэйшыя.

4.III.18 прадстаўнікамі расейскай бальшавіцкай улады быў падпісаны мірны дагавор з немцамі, на моцы каторага „землі, ляжачыя на захад ад лініі Рыга—Дзьвінск—Сьвянцяны—Ліда—Пружаны ня будуць больш падлягаць дзяржаўнаму сувэрэнітэту Расеі і будучы лёс гэтых зямель уладзіць Нямеччына з Аўстро-Вэнгрыяй, на моцы згоды з іх насельніцтвам".[1])

Такім чынам жывое цела Беларусі ў сакавіку 1918 г. было падзелена на часьці прадстаўнікамі тэй улады, каторая ў сьнежні 1917 г. разагнала Усебеларускі Зьезд. Вышла так, што бальшавікі сілай перашкодзілі беларусам бараніць і будаваць Беларусь, а пасьля самі падзяліліся ёй з Нямеччынай. Мала гэтага, пункт IX Берасьцейскага дагавору кажа, што: „абедзьве староны, якія між сабой мірацца (Нямеччына і Расея) адказваюцца ўзаемна ад тых убыткаў, каторыя прычыніла вайна насельніцтву гэтых дзяржаў". І гэты пункт маскоўскія бальшавікі падпісялі ў вялікай меры на кошт беларускага народу, бо-ж усім ведама, сколькі Беларусь ад вайны пацярпела!..

Ясная рэч, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і яе ўрад не магкі згадзіцца з тым, што Берасьцейскі дагавор абавязвае беларускі народ. Трэба было пратэставаць, трэба было прад усім сьветам заявіць, што аковаў, прыгатаваных для Беларусі бальшавікамі і нямецкімі генэраламі, яна дабравольна сабе не наложа і ад прыгавору на сябе сьмерці адказваецца. Сьвяты загад, які даў свайму выканаўчаму органу Усебеларускі Зьезд: «бараніць Беларусь ад разьдзелаў», трэба было споўніць, ня гледзячы на ніякія перашкоды.

Тымчасам выканаць гэты загад у тых варунках міжнароднага характару, у якіх знаходзілася Беларусь, было немагчыма. Справа ў тым, што згодна з міжнародным правам, дагаворы, падпісаныя ўрадам усяго краю, ня могуць не прызнавацца паасобнымі яго часьцямі. Дзеля гэтага БНР, покуль яна афіцыяльна не заявіла аб сваей дзяржаўнай сувэрэннай незалежнасьці, была ўважана за часьць Расеі і дзеля гэтага мусіла маўчаць і прызнаваць тое, што рабілі

1) А. Цьвікевіч — Краткій Очерк... бач. 14.

бальшавіцкія камісары. Аставалася адно з двух: або адхіліцца ад наказу Усебеларускага Зьезду і згадзіцца на новую палітычную сьмерць Беларусі, або аб'явіць Беларусь ад нікога незалежнай сувэрэннай дзяржавай і гэтым уратаваць будучыню Беларускага народу. Рада, як убачым ніжэй, стала на гэты другі шлях.

Як успаміналі мы вышэй, пачынаючы ад Усебеларускага Зьезду, сярод беларускіх палітыкаў ужо паяўлялася думка аб ідэале незалежнасьці Беларусі. Падзел Беларусі ў Берасьці 4.III.18 думку гэту яшчэ больш усіліў і заактуалізаваў. Слушна кажа праф. Ул. Ігнатоўскі[1]), што ў гэтым часе „думка аб незалежнасьці Беларусі ад Савецкай Расеі менскім беларускім кругом не давала спаць".

Думка аб абвешчаньні беларускай поўнай незалежнасьці цалком насьпела і сталася канечнасьцяй, калі беларусы з Зах. Беларусі з пад нямецкай окупацыі пачалі спатыкацца з беларусамі Усх. Беларусі. Беларусам з Усходу трудна было парваць дзяржаўную лучнасьць з Расеяй; беларусам віленскім зрабіць гэта было сусім лёгка, бо фактычна гэтага даканала нямецкая окупацыя. Бел. Конфэрэнцыя ў Вільні 15—27.I.1918, як мы бачылі, дамагаючыся Беларуска-Літоўскай дзяржавы з зямель з пад нямецкай окупацыі, дамагалася, каб да гэтай дзяржавы была далучана і рэшта беларускіх зямель, што на ўсход ад лініі нямецкай окупацыі. „Конфэрэнцыя горача жадае, каб у імя права на непадзельнасьць беларускага народу, разрэзанага лініяй фронту і ў імя еднасьці ўсіх беларуска-літоўскіх зямель — да памянёнай гасударственнай арганізацыі, заўсёды станавіўшай ядро Вялік. Кн. Літоўскага, была далучана і рэшта беларускіх зямель, як часьць да цэлага"...

Віленская Рада, выбраная на ўспомненай Конфэрэнцыі, на паседжаньні сваім 19.II.18 прыняла пастанову між іншым гэткага зьместу ...«Віленская Беларуская Рада абвяшчае сувязь паміж Расеяй і Беларусяй парванай .. Рада зьвяртаецца да ўсіх заходніх дзяржаў... каб яны дапамаглі ў справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасьці колішняга Літоўска-Беларускага гаспадарства... ня гледзячы на цяперашні разьдзел яго мяжою фронту».[2])

Характэрнае, як бачым, было стварыўшыся палажэньне ў беларускай тагочаснай палітыцы. Менскія беларусы, якім, як кажа Ігнатоўскі, думка аб незалежнасьці Беларусі ад Расеі не давала спаць, ніяк не маглі адважыцца выявіць яе фармальна і афіцыяльна. Узноў-жа віленскія беларусы, фактычна будучы ад Расеі адарваны праз некулькі гадоў, незалежнасьць Беларусі ад Расеі абявілі афіцыяльна, але

---

1) Зборнік „Беларусь" бач. 201.
2) „ „ там-жа.

й далей гаварылі не аб Беларусі сувэрэннай, збудаванай на беларускім нацыянальным прынцыпе, а аб Літоўска-Беларускай дзяржаве, аб супольным дзяржаўным арганізме беларусаў і літоўцаў. І гэта было тады, як мы ўжо ўспаміналі, калі літоўцы, уцяміўшы глыбей ад беларусаў нацыянальны прынцып, ужо былі далёка зайшоўшы ў будаваньні цалком самастойнай незалежнай Літвы, аб супалцы з беларусамі ня хочучы і слухаць. Такім чынам бачым, што агулам у тагочаснай беларускай палітычна-дзяржаўнай думцы, як у Беларусі заходняй, так і ўсходняй, не хапала скоордынаваньня, супольнай плятформы выключна на нацыянальным прынцыпе і супольнага ад усей Беларусі фармальнага выступленьня ў справе поўнай самастойнасьці і незаложнасьці Беларусі.

Урэшце сталася і гэта. У другой палове сакавіка 1918 г. у Менск прыбыла дэлегацыя ад Віленскай Беларускай Рады. Віленчукі, спаткаўшыся з мінчукамі, хутка вызбыліся сваіх неактуальных фэдэрацыйных ідэалаў з Літвой, а ўзноў мінчукі яшчэ больш набраліся рашучасьці і прапананьня аб патрэбе абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і ўжо на гэтым грунце далейшага вядзеньня беларускага палітычнага вызваленьня. Словам, ідэя сувэрэннай Беларусі насьпела цалком. Аставалася толькі яе выявіць. БНР папоўнілася прадстаўніцтвам ад Вільні. У БНР была выразная большасьць незалежнікаў, якая на паседжаньні Рады БНР у ночы з 24 на 25.III.1918 прыняла рэзалюцыю аб сувэрэннай незалежнасьці Беларусі.

Беларусь пачала новую эру. Таго-ж самага дня была апублікована адімя Рады БНР наступная—трэцяя—устаўная грамата:

«Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, ськінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; не пытаючысь народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На падставе гэтага Урад Бел. Нар. Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, запрапанаваўшы ім пераглядзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі і падпісаць мірную ўмову са ўсімі ваяваўшымі дзяржавамі.

БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Віленшчыну, Гродзеншчыну, Вітэбшчыну, Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.[1])

БНР сьцьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб Незалежнасьці БНР, яе Рада ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе, любячыя волю народы, памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзьржаўныя ідэалы. 25 сакавіка 1918. Менск. Рада БНР».

У гэткіх цяжкіх натугах і болях нарадзіўся ідэал незалежнай сувэрэннай нацыянальнай Беларусі.

# Зямля, Сьвятло і Беларусь...

(*Уражаньні з вёскі*).

## Вільня — Рось

Гудкі тартакоў абвяшчалі 7-ю гадзіну. Я быў у дарозе на чыгуначную станцыю, бо за 30 мінут меў ужо ад'ехаць цягнік, каторым я хацеў пакінуць Вільню і апынуцца на вёсцы. Вуліцы яшчэ былі пустыя. Вазьнікі і шофэры драмалі на пляцох, а старажы палівалі брук. Кямяніцы стаялі панура, кідаючы цень адна на другую. Дзе-ня-дзе работнікі сьпяшаліся да працы, а гаспадыні на рынак. Часамі кот тайком выгляне з-за брамы, або зьнянацка стукне акяніца. Паволі будзілася места. Ужо нават сям-там ціха гудзелі аўтабусы і бражджэлі хурманкі. Адчыняліся пякарні і сталоўкі. На хадніку аднак ніхто не замінаў, так што па некулькі мінутах я ужо быў на станцыі. Рух тут не вялікі і ў вагонах яшчэ многа мясцоў свабодных. Хаджу і шукаю добрых спадарожнікаў. Думаў, можа трапяцца дзесь сяляне. Але дарэмная фатыга, — іх тут ня знайдзеш, — бо хоць і XX век, аднак падарож цягнікам для сялян гэта недасягнуты люксус. Дык сядаю на найбліжэйшую лаўку і чакаю ад'езду. Каля мяне якісь чыгуначнік, урадавец і яшчэ якісь інтэлігент, — здаецца вучыцель. Кожны заняты сабой. Ціха і спакойна. Аж раптам гоман, крыкі і плач, і да нас увaходзіць жыдоўка з маленькім хлопчыкам.

---

1) Цытыю паводле П. Крэчэўска (Замежн. Беларусь); Цьвікевіч (Краткій Очеркъ возникновенія Бѣл. Нар. Республики бач. 15—16) гэта месца перадае так: „Бѣл. Нар. Республика должна обнять всѣ земли, гдѣ живетъ и имѣетъ численное преобладаніе бѣлорусскій народъ, а именно: Могилевщину, бѣлорусскія части Минщины, Гроденщины (съ Гродной, Бѣлостокомъ и др.), Виленщины, Витебщины, Черниговщины"...

Памёр хіба нехта з сям'і — думаю і яна пэўна выяжджае на паховіны. Але чаму яе адводзіць так многа людзей? — Пытаю, што такое?

— Яна едзе з сынам у СССР да мужа, дзе ён займае добрую пасаду, — кажа адзін з жыдкоў.

Малога ўсьцяж хапаюць усе з рук на рукі, цалуюць і даюць чэкаляду. Яму гэта ўжо абрыдла, дык плача і вырываецца. Матка-ж яго проста сьлязьмі заліваецца. А за ею і ўсе ейныя знаёмыя.

Сапраўды, дзіўная зьявішча. Едзе да мужа, з якім нябачылася доўгі час, вязе з сабой сына, — здаецца, павінна была-б цешыцца, а аднак плача... Чаго?... Можа «бабская натура» і толькі. А можа няпэўнасьць таго, што там яе спаткае... Гэта другое хіба хутчэй.

Жыдоўка не знайшоўшы каля нас добрага месца, праходзе далей, а зараз сьвісток і цягнік рушыў.

У нашым купэ йзноў цішына. Кожны з пасажыраў заняты далей сваімі справамі. Аб гутарцы, відаць, ніхто й ня думае. Таварыства, значыцца, не дабралася. І так едзем моўчкі то праз лес сасновы, то праз пугі і палі зялёныя з горкамі і далінамі; часамі забубніць масток над рэчкай, або мігам у вакне праляціць шэрая вёска беларуская з пахілай страхой, ці селянін з плугам на вузенькім загончыку, або пастушок з стадкай кароў. Ажыўляюць нас адно прыстанкі і кантроля білетаў, пры якой выявілася, што толькі ў мяне нармальны білет — у рэшты маіх спадарожнікаў — білеты льготныя (з спускам). Бо ўсе яны ўрадаўцы і ім фактычна чыгунка даступная.

Была гадзіна 12-тая. Мінулі мы ўжо Ліду і пакінулі там жыдоўку з сынком, якая паехала далей на граніцу праз Баранавічы і Столпцы. У нашым купэ сталася малая зьмена: — чыгуначнік высеў, а на яго месца зьявіўся капраль «заводовы», каторы цэлы час еў цукеркі. Яшчэ 30 мін. ласкочуць у вушох буфары, памаленьку пераяжджаем наш слаўны Нёман і я ўжо на станцыі Рось, а зараз і ў самым мястэчку.

Рось — звычайнае правінцыянальнае, даволі чыстае беларускае мястэчка ў Ваўкавыскім павеце, падобнае да сотні іншых у нас. Паложана над рэчкай Росяй, недалёка лес Дуброва, ёсьць касьцёл, царква, 7-мі аддзяловая пачаткавая польская школа, вялікі млін, гміна, пастарунак і жыдоўская бажніца, бо бадай большасьць жыхароў яго жыды. Розьніцца яно ад іншых мястэчак тым, што тут ёсьць вялікія залежы пабелкі (крэйды), а з гэтай прычыны прад вайной паўстала недалёка ад Росі — ў в. Краснае Сяло — фабрыка цэмэнту, дзе працавала некалькі тысяч работнікаў. Цяпер фабрыка гэта стаіць і няведама калі пойдзе. А тымчасам цэмэнт у наш край прывозяць аж з Польшчы.

У гэты дзень, калі я прыехаў, у Росі якраз быў фэст і кірмаш. У касьцеле, дзе ёсьць цудоўная статуя Хрыста, людзі маліліся, а на рынку прабавалі коняў, глядзелі кароў, цялят, сьвіней — куплялі і прадавалі моцна таргуючыся, бо часы цяжкія; дык той, хто прадаваў, хацеў узяць як найбольш, а той, што купляў, хацеў плаціць як найменш.

Людзей, як на рынку, так і каля касьцёла, многа і ўсюды чуваць беларуская мова. Адно каля касьцёла часта можна пачуць і калечаньне польскае мовы. — Спатыкаю шмат знаёмых і пачынаецца гутарка на тэму: што чуваць і як жывецца, якая пасьля зводзіцца фактычна да гутаркі аб зямлі, асьвеце і Беларусі. Тэма гэта была галоўнай ня толькі ў Росі, але і ў іншых кутках Ваўкавыскага, а так-жа Горадзенскага і Шчучынскага паветаў, дзе прышлося бываць.

## Зямля, зямля, зямелька...

Праўду кажа Міхась Машара ў адным з сваіх вершаў, што „Зямля, зямліца працоўных мацъ..." — Так яно і ёсьць, бо зямля нашых працоўных сялян корміць, дае ім працу і яна для іх неабходная. Селянін без зямлі, як рыба без вады. І дзеля гэтага кожны з іх так моцна імкнецца мець свой уласны кавалак яе і то магчыма як найбольшы, бо тады жыцьцё становіцца лягчэйшым.

А зямлі якраз нашым сялянам не хапае. Тыя шнюры (палоскі), якія мелі, ужо так падзелены, такія яны сталіся вузкія, што далей іх дзяліць ня можна. Так што цяпер ужо не палоскі дзеляць, а палоскамі, рэжучы іх часта на кавалкі, да каторых йзноў бывае, — як з усіх бакоў пазасяваюць суседзі, — трудна дабрацца.

Камасацыя тут бяз прырэзкі нічагусенькі не памагае, а нават яшчэ руйнуе людзей, бо змушае перабудоўвацца, а пры сучасных падатках, таніне ўсяго сялянскага, а даражыні тавараў фабрычных і першай патрэбы, а так-жа пры адсутнасьці якіх-небудзь заработкаў на старане — гэта проста немагчымая рэч. Дзеля гэтага з зайздрасьцю і ненавісьцю глядзіць наш народ на тых, што маюць вялізарныя абшары і на тых што прыяжджаюць з чужыны, дастаюць хутары і хочуць яшчэ верхаводзціь на вёсцы.

Недахоп зямлі гэта найвялікшая балячка вёскі, якая ставіць у тупік перад усім дарастаючую моладзь, каторая будучы пазбаўленай пэрспэктывы магчымасьцяў жыцьця, глуміць сама сябе, шукае выхаду, часта блудзіць і нават выракаецца сваіх прыродных пачуцьцяў ды пярэчыць сама сабе.

Характэрна напрыклад, што цяпер на вёсцы маладыя хлопцы ня шукаюць сабе дзяўчат да жаніцьбы такіх, якія-б ім падабаліся, а такіх, якія маюць многа зямлі ці іншага багацтва ў пасазе.

*(д. б.)* **Я. Н.**

## Kali minaje žnivień

Sonca visieła nizka nad ziamloju. Jano adnym bokam čapłałasia lohkaj biełaj chmarki, a druhim chavałasia ŭ šumiačych, pakrytych zbožžam, załatych paloch. Kruhom kipieła rabota. Adny chutka žali, druhija hrabili siena, inšyja ŭznoŭ snapy viazali. Kožny, chto moh śpiašaŭsia, kab u dobry i ščaślivy čas sabrać sabie dabytak i zabiaśpiečycca na zimu.

Dzieś, bušujučy pa aržyščy, zvonka rykała Krasula, iržaŭ latajučy pa darožcy žarebčyk i šukała z žalboj jahniatka svajej matki. Jašče-ž hałaśniej pralivałasia sumnaja melodyja Pranukovaj dudki:

„Oj kalina, malina, ty uvieś bor zakrasiła"...

Adsiul i adtul padymalisia, jak žaŭranki, viasiołyja pieśni, heta addychajučy žniejki piajali ich, kab raźviasialić svaju ciažkuju dolu.

Usie pracavali. Pracavali starejšyja i małodšyja, pracavała taksama i Hanulka, jakaja pažaŭšy pšaničku, rabiła chutka paradak u chatcy, vymiatała padvorak, a potym uziałasia prasavać, vymyty i modna pašyty kaptan, pryhladajučysia ŭ lusterka, bo-ž zaŭtra na feście ŭ Pumpuryškach mieła pabačyć mileńkaha Zaniuka z Pakišak. Oj, hety Zaniuk... Na dumku ab im tvaryk Hanulki rabiŭsia čyrvaniejšy, serca jaje abymała radaść i stavałasia joj tady ŭsio dobrym i miłym na śviecie.

* * *

Pali pavoli aparažnialisia, stavałasia štoraz cišej, cišej i cišej... Kruhom pačali słacca pa ziamli lohkija kłubki tumanaŭ i zdavałasia, što byccam ziamielku nakryŭ chtoś biełaju koŭdraju.

Pahaśli ŭsiudy ahońčyki i zapanavała kruhom noč. Zdalok tolki płyła miłaja i žyvaja melodyja pieśni:

„Dadziom sabie my družna ruki —
Dla Biełarusi kožny z nas"...

Heta chłopcy jedučy na načleh zavodzili viasiołyja i budziačyja da žyćcia, to znoŭ sumnyja pieśni, jak sumnaja ichnia dola. Z pieśniaŭ hetych lilisia słovy prysiahi, što dla Baćkaŭščyny, jany hatovy ŭsio addać... z ichnich pieśniaŭ lilasia luboŭ da svajho rodnaha, biełaruskaha...

* * *

Z-za lesu pakazaŭsia biely, spakojny, byccam siarebrany. miesiac. Praz vuzkija, małyja akoncy ŭkradaŭsia jon da nizkaj chatki i ablivaŭ svaim bleskam małady tvaryk Hanulki, katoraja śniła sałodkija sny ab svaim Zaniuku.

**Albert Strybuć.**

## Dumka ab vynaradaŭlańni biełarusaŭ—nie zakinuta

Nie sakret dla nikoha, što našyja „dobryja“ susiedzi — z boku rasiejskaha i polskaha — imknucca nas vynaradavić. Z polskaha boku imknieńni hetyja paćvierdziŭ u svaim časie premjer L. Skulski, jaki navat abiacaŭ, što za 50 hadoŭ biełarusaŭ nia budzie. Paśla taho adnak mnoha ŭciakło vady z rekaŭ, adbyŭsia majovy pieravarot, źmianialisia ŭrady, prapali viestki ab Skulskim, a narod naš nia raz dakazaŭ, čaho jon choča i što *biełarusy byli i buduć*. I zdavałasia, što hetkija polskija „dabradziei“ zakinuć svaje „mrzonki“ ab vynaradaŭleńni biełarusaŭ. Ale dzie-ž tam! Jany musić ab hetym i nia dumali. Bo voś vilenskaje abšarnickaje „Słowo“ — orhan polskich konservatystaŭ, u numary z 8-ha žniŭnia sioleta, u artykule: «Dmowski chciał ochrzcić Aszkenazego» piša:

> „Z naszego polskiego punktu widzenia wydaje się słuszny program asymilacyi zamieszkałych w Rzeczypospolitej Białorusinów...“ i h. d.

Jak bačym, pryznalisia zusim adkryta.

Treba skazać, što sposaby, jakimi chočuć jany biełarusaŭ vynaradaŭlać jość roznyja i prajaŭlajucca ŭ kožnaj halinie žyćcia, ab čym my nia raz užo pisali. I ŭžo navat dajšło da taho, što robiacca zachady, kab našyja viaskovyja muzykanty — harmanisty i cymblisty jhrali polski taniec oberak, a paśla peŭna mazura, kujaviaka i hetym samym pryvučać biełaruskuju moładź da polskich nacyjanalnych tancaŭ.

Što tak jość, śviedčyć padanaja tym-ža vilenskim „Słovam“ z dn. 10.VIII. siol. nastupnaja viestka:

> „Dnia 4 i 5 h. m. u vioscy Drozdovščyźnie, (peŭna ŭ Drazdoch — r e d.), Varapajeŭskaj hm. adbyŭsia konkurs harmanistaŭ i cymbalistaŭ. Da konkursu stała 12 asob, z katorych kožna adyhrała: oberka, polku i jakuju-niebudź narodnuju melodyju. Sudździami konkursu byli: kpt. Reška — kapelmejstar 6 pp. Leg. i p. Arcimovič — vučyciel muzyki z Vilni. Trom najbolš vydatnym učaśnikam byli razdany hrašovyja naharody“.

Viestka heta zdajecca nie patrabuje nijakich pajaśnieńniaŭ. Jana choć vyhladaje maleńkaj i drobnaj, ale karań jaje hłyboki. Robicca heta dziela taho, što biełaruskaja moładź svaju Lavonichu tancuje što-raz čaściej nie jak tak sabie viaskovy taniec, ale jak *taniec narodna-biełaruski*.

Biełaruskaja moładź užo pierakanałasia, što ŭ kožnaj jaje, navat najmienšaj dziejnaści, navat u tancy, pavinna prajaŭlacca luboŭ da svajho rodnaha i imknieńnie da adradžeńnia svajej Baćkaŭščyny Biełarusi.

j. n.

## Asioł i voŭk.

Asioł vaŭka davaj žuryć,
Rabić usiakija zahany,
Što jon nia ŭmieje dobra vyć:
— „Ach, kachany!
Choć vyješ časta, vielmi zyčna,
Adnak niehramatyčna:
Nu, dzie, kali i chtož-by čuŭ,
Kab pośle „A“ dy doŭha „U“?
Hramatyki, znaj, jość zakon
(Usim asłom na't znany jon),
Što pośle „A“ — tre' „ŭ“ karotka.
Choć zdolny, znaju, ty paeta —
Nia robiš „vysiłku“*) u hetym,
Kab movu čym uzbahacić,
Nu choć-by novaju zvarotkaj“.
Jak słova „vysiłku“ pačuŭ
U tuju voŭk paru,
Padniaŭšy mordu uharu,
Začaŭ pa-svojmu vyć:
— A-u-u-u-u-u...

———————————————————

Adsiul i vysnaŭ jość taki:
Pakińma! Ŭmiejuć vyć vaŭki!
A kab mahčy kaho vučyć,
Samym choć krychu treba vyć...

*J. Bylina.*

## УСПОМНІ, ГАЛУБКА**).

Успомні, галубка, хвілінку шчасьлівую,
Як мы сядзелі ўдваіх, —
Песьню пяяў салавейка зычлівую,
Вецер над борам прыціх;
Ціха было і прыгожа над Нёманам,
Плюскала рыбка ў вадзе,
Дым паказаўся далёка над комінам,
Сьціх крычаць драч у лазе,
Тварык свой кволы на грудзі сьхіліла,
Чула яго я ласкаў,
Зоркай,—каханьнем мяне асьвяціла,
Шчасьцю я меры ня знаў.
Сёньня-ж цябе так прыгожа—маўклівую
У думках я маю сваіх, —
Ўспомні-ж, галубка, хвілінку шчасьлівую
Як мы сядзелі ўдваіх. **Янка Н—вук.**

---

*) „Wysiłak“ — polonizm, pabiełarusku „natuha“.

**) Словы гэтага верша можна пяяць на мэлёдыю расейскае песьні: „Помниш ли, милая“...

## Z VYDAWIECKAJ NIVY

*Ад. Станкевіч* — **Прафэсар Бранісалаў Эпімах-Шыпіла.** Выданьне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Вільня 1935. Бачын 24 і партрэт праф. Б. Э.-Шыпілы. Фармат 14×20 цм. Цана 50 гр.

Кніжыца выдана на вельмі добрай паперы, зьмешчаны ў ёй грунтоўна апрацаваны рэфэрат, ведамага беларускага дзеяча, Кс. Ад. Станкевіча аб жыцьці і працы піонэра беларускага адраджэньня праф. Браніслава Эпімах-Шыпілы, чытаны на жалобнай акадэміі, ладжанай Бел. Інстытутам Гасп. і Культуры ў Вільні 8 га сьнежня 1934 г. Кніжыца гэта мае такія разьдзелы: І. Уступныя ўвагі, ІІ. Біографія Б. Э.-Шыпілы і час у якім ён жыў, ІІІ. Праца Б. Э.-Шыпілы да часу Вялікай Расейскай Рэвалюцыі, IV. Праца Б. Э.-Шыпілы пасьля рэвалюцыі і V. Б. Э.-Шыпіла, як палітычны ссыльны.

Карыстаючыся ею, можна вельмі лёгка кожнаму прачытаць рэфэрат аб сьв. п. праф. Бр. Э.-Шыпіле на вёсцы, напр. дзе-небудзь у гуртку Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры. А рабіць гэта трэба, бо кожны беларус павінен ведаць, хто такі быў праф. Бр. Э.-Шыпіла.

**Uspamin z Kalwaryi.** Vydaviectva T-va „Biełaruskaje Katalickaje Vydaviectva“. Na pravoch rukapisu. Vilnia 1935 h. Bač. 24. Far. 10×14. Cana 10 hr.

Nievialičkaja hetaja knižyca vydana z pryčyny pieršaje arhanizavanaje supolnaje pilihrymki biełarusaŭ u Kalvaryju kala Vilni, jakaja adbyłasia 2-ha červienia sioleta.

U knižycy źmieščany: pierad usim karotkaja historyja zvyčaju abchodu stacyjaŭ muki Chrystovaj i vilenskaj Kalvaryi, nazovy 35 stacyjaŭ, paciery pabiełarusku, 8 biełaruskich relihijnych pieśniaŭ, katoryja možna piajać u Kalvaryi i biełaruski relihijny himn: „Boža što kaliś narody“.

Pry hetym treba skazać, što sioletniaja pilihrymka biełarusaŭ-katalikoŭ u Kalvaryju, jakaja prajšła vulicami miesta Vilni i abyjšła Kalvaryju z rodnaj biełaruskaj pieśniaj na vusnach, vielmi ažyviła biełaruskaje relihijnaje žyćcio i vyjaviła imknieńni biełarusaŭ da rodnaj movy ŭ śviatyni. Ucaśniki jaje, katorych było bolš 300 asob z roznych, časta vielmi dalokich ad Vilni, kutkoŭ Zach. Biełarusi, uvažna słuchali Božaha Słova pabiełarusku z vusnaŭ ksiandzoŭ biełarusaŭ, ciešylisia, horača malilisia i vyniaśli z pilihrymki jak najlepšyja ŭražańni. Dzieła hetaha treba spadziavacca, što ŭ nastupnym hodzie na takuju-ž pilihrymku źbiarecca ludziej daloka bolš.

**„Poprostu“.** Pad hetkim nazovam sioleta ŭ žniŭni m-cy pačaŭ vychodzić u Vilni polski litaraturna-hramadzki dvutydniovik. Vydaje jaho hrupa maładych polskich radykałaŭ na čale z Dembinskim, Mikułkaj, Ordaj i Jendrychoŭskim. Časa-

pis hety pamiž inšym maje na mecie infarmavać polskija pracoŭnyja masy „ab doli i niadoli biełaruskich sialan i intelihientaŭ". Dobry heta namier i treba tolki pažadać, kab infarmacyi časap. „Poprostu" ab biełarusach byli zhodnyja z praŭdaj.

Nia možna pry tym paŭstrymacca, kab nie skazać, što ŭžo daŭno para padumać samym biełarusam ab tym, kab inšyja narody, prynamsi susiednija, krychu bolš ab nas znali. Bo voś časta čytajem u polskaj presie, a navat ukrainskaj, viestki z biełaruskaha žyćcia zusim niazhodnyja z praŭdaj. I nia možna ŭ hetym, napr. ukrainskuju presu, vinić, bo jana chočučy dać štoś ab biełarusach, moža časta dziela nieznajomstva biełaruskaha jazyka, prymušana brać viestki z polskich hazet. jakija praz niaśviedamaść, a časta i zusim śviedama pradstaŭlajuć naša žyćcio i arhanizacyi chvalšyva i na našu niekaryść.

Dziela hetaha treba nieadkładna padumać, kab u najchutčejšym časie paŭstała biełaruskaje presavaje ahienstva, jakoje-b padrobna infarmavała ŭsiu presu ŭ Polšču, a tak ža i zahranicaj, u viedamych dla jeje movach, ab žyćci i adradženskim ruchu biełaruskaha narodu. *j—n.*

---

## 10-цілецьце украінскай арганізацыі „Луг"

Сёлета мінула 10-ць гадоў, як з арганізацыі „Украінских Січових Стрільців" паўстала арганізацыя „Луг", якая гуртуе каля сябе даволі вялікую частку украінскае моладзі, а так-жа і старэйшага грамадзянства. З гэтай прычыны 4-га жніўня ў Львове адбылося Юбілейнае „Лугавое" Сьвяткаваньне, на якое прыбыло з усіх куткоў Зах. Украіны больш 2.000 асоб мужчынскае і жаноцкае моладзі.

Сьвяткаваньне пачалося раніцай багаслужэньнем, каторае на ўласным пляцу, званым „Горад Лугу," адправіў і сказаў адпаведную прамову а. ігум. Лучинський, Базыльянін.

Пасьля багаслужэньня адбыўся паход сяброў „Лугу" з 5 аркестрамі па вуліцах Львова і перад урадам „Лугу" на пляцы сьв. Юра.

Па паўдні адбыліся ў „Горадзе Лугу" гімнастычныя папісы, якія пачаў прамовай старшыня „Лугу" дыр. Дашкевіч, каторы пасьля раздаў прыбыўшым і львоўскаму аддзелам „Лугу" нагароды.

Арганізацыя „Луг" мае цяпер больш 450 аддзелаў і налічае тысячы сяброў, працуючы пад клічам „З Богам для Бацькаўшчыны," якую жадаем ёй бачыць Вольнай і Незалежнай! **Я—к.**

## ХРОНІКА

**З беларускага жыцьця**

**Засудзілі.** Віленскі Гарадзкі Суд 21-га жніўня сёлета засудзіў радактара „Шляху Моладзі" грам. Я. Найдзюка на 3 тыдні арышту і 100 зл. штрафу за надрукаваньне ў № 9 з 1934 г. „Шляху Моладзі" вершаў: М. Машары і Маладога Дубка, а так-жа і карэспандэнцыі з Браслаўшчыны, за якія ўспомнены нумар „Шляху Моладзі" быў сканфіскаваны Віл. Гарадзкім Старастай. Засуджаны падае апэляцыю.

**Беларусы і Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў.** Даведваемся, што на сёлетні Міжнародны Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў у Жэнэве паедзе ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту інж. А. Клімовіч. Кангрэс пачнецца 2.IX.

**Хацеў выгнаць з роднае вёскі.** „Chryścijanskaja Dumka" у № 8 сёл. піша, што кс. праф.др.Я. Тарасэвіч, які стала прабывае ў Амэрыцы і гасьціў сёлета „у сваей радні ў Шчучынскім павеце, меў шмат прыкрасьцяў ад тамтэйшага паветавага старасты Кавальскага, які нават грaзіў яму высылкай з павету за тое, што той з людзьмі (там усе беларусы!) і з сваякамі гаварыў пабеларуску. Але пасьля... адпусьціўся, мусіць прыпомніў, што дваццаты век і шчучынскага старасту да нечага абавязвае!...

Ня лепш сьпісаўся і дзекан у Васілішках кс. Цыраскі, які, перапужаўшыся Кс. Тарасэвіча, пасьвяціў раз цэлае казаньне выясьненьню, што там у іх няма (тымчасам усе беларусы!) ніякіх беларусаў, што ўсе палякі, што ксяндзоў беларусаў ня можна слухаць і г. д. Словам, вышла „пакаталіцку" аж люба!"

Дык слушна „Chr. Dumka" закончывае гэтую вестку, што: „Можна сабе прадставіць, як жывецца беларусам у гэткіх „культурных" шчучынскіх і васіліскіх абставінах!..."

**Які будзе Беларускі Адрыўны Календар на 1936 год.** Нас паведамляюць, што Беларускі Адрыўны Календар на 1936 г. друкуецца на лепшай паперы як сёлетні календар і што выдаўцы яго стараюцца, каб зьмест календара быў багаты і карысны, а таксама каб цана прадажы яго была паніжана.

**У БССР. Беларуская Савецкая Энцыклёпэдыя.** Беларускія вучоныя ў БССР згодна з пастановай Ц К. КП(б.)Б і СНК БССР прыступілі да выданьня Беларускае Савецкае Энцыклёпэдыі. Працуе пры гэтым 500 чалавек.

**Новая повесьць Якуба Коласа.** У савецкім літаратурным часапісе „Полымя Рэвалюцыі" ад даўжэйшага ўжо часу друкуецца новая бел. повесьць Я. Коласа п. н. „Дрыгва."

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# USIAČYNA

— **U Polščy** paśla vybaraŭ u Sojm i Senat spadziajucca asabovych źmienaŭ na adkaznych dziaržaŭnych stanoviščach.

— **U Maskvie** sioleta ŭ lipni i žniŭni adbyŭsia VII Kanhres Kominternu. Hazety pišuć, što kanhres hety vyjaviŭ idejovy kryzys kamunistyčnaha ruchu. Pramovy ŭčaśnikaŭ kanhresu adna druhoj piarečyli. Adny kamunisty chočuć rabić zaraz suśvietnuju revalucyju, druhija ŭznoŭ chočuć pierš za ŭsio ŭmacavać SSSR. Adny iduć za Trockim, druhija za Stalinam. Aproč taho, mnohija kamunisty zakidajuć Savieckamu Sajuzu zdradu revalucyi, dziela taho, što jon supracoŭničaje z kapitalistyčnymi dziaržavami. Na ŭčaśnikaŭ kanhresu—kamunistaŭ z buržuaznych dziaržaŭ — najbolš pryhniatajuča dziejeła pałažeńnie pracoŭnych masaŭ SSSR, dzie pamima taho, što ŭžo bolš jak 15 hadoŭ haspadarać balšaviki, rabotnik miesiačna zarablaje siarednie (u pieraličeńniu pa canie chleba) 37 ½ zł. (tryccać siem z pałovaj złotaŭ).

Z pryčyny pramovy Dmitrova na Kahresie Kominternu, jaki radziŭ kamunistyčnym partyjam u buržuaznych dziaržavach, što jany majuć rabić, Zł. Št. Ameryki, Anhlija, Italija i Łatvija zapratestavali suproć hetaha pierad uradam SSSR i pahražajuć zryvam dyplomatyčnych znosinaŭ z Savietami.

— **Najsłaŭniejšy amerykanski latun indyjec Willey Post,** jaki ŭ 1933 h. na samalocie ablacieŭ naŭkruha śvietu ŭ praciahu 186 hadzin i 50 min., sioleta ŭ m-cy žniŭni chočučy pieralacieć z Ameryki ŭ SSSR praz paŭnočny polus, raźbiŭsia na Alascy i źhinuŭ razam z svaim tavaryšam viedamym artystam Willey Rogers'am. Niadaŭna jšče Willey Post prabavaŭ latać na specyjalnym samalocie ŭ stratasfery.

— **Vajna miž Abisinijaj i Italijaj** visić na vałasku; sproby Anhlii i Francyi pahadzić hetyja dziaržavy ŭściaž pravalivajucca.

— **U Francyi** z pryčyny abnižki zarabotnaje płaty rabotnikam, niadaŭna adbylisia vialikija rabotnickija demonstracyi, u časie jakich dachodziła da bojak z palicyjaj. Pry hetym niekalki rabotnikaŭ zabita i mnoha raniena z abiedźviuch staron. Demonstrantaŭ uspakiła vojska.

— **Česki latun Anderle** padniaŭsia na samalocie na vyšyniu 11,000 metraŭ, bjučy hetym samym rekord. Na hetaj adnak vyšyni straciŭ jon prytomnaść i zamierźli jamu vočy. Pamima taho latun na ziamlu apuściŭsia ščaśliva i ciapier lečyć vočy.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Гладзіятару. Верш атрымалі, нажаль друкаваць яго вельмі небясьпечна, бо можа быць сканфіскаваны.

A. S—ciu. Atrymali ŭsio, z matarjałaŭ, jak bačycie, karystajem.

B. P—skamu. Statut i instrukcyju BIHiK vysyłajem i žadajem udačy

P. R.—kuŭ Łatvii. Vieršy słabyja i drukavać ich nia možam, apišycie nam prozaj svaje ŭražańni z nad Bałtyku. „Šl. Moładzi" vysyłajem.

Я. Новашу. Пісьмо перадалі. Ці будзе выходзіць „Беларускі Студэнт", пакульшто нічога ня можам сказаць. Гадавікі „Шл. Моладзі" можаце купіць усе за выняткам 1929 г. па 3 зл. Статут і інструкцыю БІГіК, а так-жа „Шлях Моладзі" высылаем. „Віншаваньняў" няма.

# КУТОК РАЗРЫВАК

Пад рэд. Ул. Паўлюкоўскага

### Лёгогрыф № 1

(Улажыў У. П.)

Як з *О* — я рыбку сьвежую люблю,
А з *І* — жыву як рыба, у вадзе,
Як з *А* — я сьмерць другім раблю,
А з *У* — хаваю ўсё, што пападзе.

**Задачы**: № 1. Якія найкарацейшыя дні ў чалавечым жыцьці?
№ 2. У каторым месяцы жанчыны найменш гавораць?

### Як гэта зрабіць:

1) каб адна палова простай лініі здавалася большай за другую такую-ж палову яе;

2) каб з дзьвёх простых роўных лініяў адна здавалася даўжэйшай за другую;

і 3) каб тры простыя роўныя лініі здаваліся няроўнымі паміж сабою.

### Арытмэтычная задача № 1

4 сялян прывязьлі ў млін малоць 32 мяшкі збожжа. У мліне быў завоз, дык мельнік зложыў мяшкі наўкол квадратнага стаўпа, сказаў сялянам палічыць іх і прыходзіць кожны дзень даведвацца. Сяляне налічылі — з кожнага боку стаўпа па 9 мяшкоў і паехалі. Толькі ня стала сялян, мельнік украў 4 мяшкі, а рэшту разлажыў так, што калі назаўтра лічыў прышоўшы селянін, дык з кожнага боку стаўпа было па 9. Пайшоў гэты селянін і мельнік йзноў украў 4 мяшкі збожжа.

На другі дзень прыйшоў другі селянін і даведаўся ў мельніка, што будзе малоць заўтра, г. зн. на трэці дзень. Селянін палічыў мяшкі — з кожнага боку 9 — і пайшоў. Мельнік-жа пасьля яго йзноў украў 4 мяшкі, і калі прыйшлі сяляне і палічылі то ўсё-ж такі было па 9 з кожнага боку спаўпа. Толькі як пачалі малоць, то аказалася што ўкрадзена было 12 мяшкоў.

Як былі зложаны мяшкі першы раз і як іх раскладаў мельнік пасьля кожнай кражы?

**УВАГА.** Хто прышле правільныя разьвязкі паданых вышэй: лёгогрыфу, задач і адказ на пытаньне: „Як гэта зрабіць“, той атрымае нагароду ў постаці добрых беларускіх кніжак.

**Круцігалоўкі № 7 ніхто дагэтуль не разьвязаў,** а як разьвязка яе мелі быць псэўдонімы беларускіх паэтаў: Алесь Гарун і Янка Купала

*Усіх даўжнікоў „Шляху Моладзі“ просім неадкладна, хоць часткова, урэгуляваць свой доўг, бо ў праціўным выпадку высылка „Шляху Мол.“ будзе ўстрымана!*